# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

## НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР



РЭДАКЦЫЯ і КАНТОРА

г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.

Тэл. № 23-287.



№ 35-36 | Год выдання 1-ы | 31 снежня 1935 г. | № 35-36


## Культурна гандляваць школьна-пісьмовымі прыладамі

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

### № 909

11 снежня 1935 г. — г. Менск

У выкананне пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 14-IX—35 г. „Аб арганізацыі гандля школьна-пісьмовымі прыладамі“ і ў мэтах своечасовай і добрай падрыхтоўкі да адчынення вольнага продажу паўсямесна з 1-I—36 г.,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць гандлюючыя сістэмы: Белкультгандаль БДВ, БАТК, „КОГІЗ“ і Белгандаль—падрыхтаваць да 25-XII—1935 г. гандлёвую сетку па продажу школьна-пісьмовых прылад ва ўсіх гарадах і раёнах, забяспечыўшы культурнае абсталяванне і належную падрыхтоўку сетцы да паказанага тэрміна, а таксама падабраць неабходны кваліфікаваны і правераны склад работнікаў прылаўка.

2. Абавязаць гандлюючыя сістэмы забяспечыць стварэнне да 1-I—36 г. у гандлёвай сетцы пастаяннага незніжаемага двухтыднёвага запаса школьна-пісьмовых прылад, захаваўшы гэты запас на працягу ўсяго зімовага сезона.

3. Абавязаць гандлюючыя сістэмы не пазней 15-XII—35 г. давесці да кожнага магазіна і аддзялення гандлюючага школьна-пісьмовымі прыладамі правілы гандля, нормы водпуска ў адны рукі і прэйскурант цэн, указаўшы абавязковасць вывешвання якіх на відным месцы—з моманта адчынення гандля.

Адначасова даць вычэрпваючае ўказанне аб парадку арганізацыі гандля, мерапрыемствы па забеспячэнню разгорнутага асартымента школьна-пісьмовых прылад, а таксама аб устанаўленні (на першы перыяд) кантроля за работай кожнай гандлёвай адзінкі па падтрыманню парадку, задавальнення спажыўца, а таксама недапушчэння скупкі і спекуляцыі школьна-пісьмовымі прыладамі.

4. Абавязаць гандлюючыя сістэмы не пазней 25-XII—35 г. давесці да кожнага загадчыка магазінам і работніка прылаўка дэталёвае ўказ... парадку прыёмкі і бракеражу тавараў у ... дажу га- ... кампаній, ... і ўста- ...

адказнасці за дапушчэнне ў продаж тавараў нізкай якасці.

5. Прапанаваць Гор. Райунутгандлям узяць пад свой неаслабны кантроль усю справу падрыхтоўкі гандлёвай сеткі па арганізацыі адчыненага гандля школьна-пісьмовымі прыладамі, аказваючы практычную дапамогу з тым, каб сетка была прыведзена ў поўны парадак і падрыхтавана да культурнага гандля ў устаноўлены тэрмін (25-XII—35 г.).

6. Ускласці на Горунутгандлі персанальную адказнасць за арганізацыю парадку гандля ў сетцы, недапушчэнне чаргі, за выкананне зацверджаных НКУГ СССР правіл гандля, норм водпуска ў адны рукі, устаноўленых цэн і правільнай прыёмкі і бракоўкі тавараў з недапушчэнем у продаж непоўнацэнных і нестандартных школьна-пісьмовых прылад.

7. Ускласці персанальную адказнасць за правядзенне ў жыццё пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 14-IX—35 г. па гандлюючым арганізацыям на наступных таварышоў: Белкультгандаль—т **Прылуцкі**, БАКТ—т. **Любіч**, БДВ—т. **Рэніч**, Белгандаль—т. **Валожын**, „КОГІЗ“—т. **Мінкелевіч**.

8. Гандлюючым арганізацыям, пачынаючы з 15-XII—35 г. кожныя 5 дзён інфарміраваць НКГУ БССР аб ходзе паступлення і завоз у раёны асноўных відаў школьна-пісьмовых прылад (сшыткі, алоўкі, пер'я, ручкі, гумкі) і адначасова прадставіць 26-XII—35 г. звесткі аб наяўнасці паказаных прадметаў у гандлёвай сетцы па гарадам і раёнам.

9. Адказнасць за арганізацыю падрыхтоўкі ўсіх мерапрыемстваў, звязаных з правядзеннем адкрытага гандля школьна-пісьмовымі прыладамі паўсямесна з 1-I—1936 г.—ускладаю на Нач. аддзела тав. **Кісліка**.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

# Аб прэміраванні стаханаўцаў грамадскага харчавання

## ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля СССР

7 снежня 1935 г. **№ 1966** г. Масква

Указанні правадыра партыі і народа—т. **Сталіна** ў прамове на першай Усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў з'яўляюцца разгорнутай праграмай дзеянняў і для сістэмы грамадскага харчавання.

Нарада стаханаўцаў грамадскага харчавання Масквы, Ленінграда, Донбаса і Харкава, якае адбылася ў Наркамунутгандлі 17 лістапада, падвяла першыя вынікі стаханаўскага руху ў нашых прадпрыемствах.

Стаханаўцы фабрык-кухань, сталовых і інш. прадпрыемстваў грамадскага харчавання, ламаючы ўстарэлыя нормы, старыя адсталыя навыкі работы, паказваюць узоры высокай вытворчасці працы, палепшання якасці абедаў, абслугоўвання спажыўцоў і, тым самым, перабудоўваюць грамадскае харчаванне на новую вышэйшую ступень, у адпаведнасці з узросшымі попытамі рабочых і працоўных нашай краіны.

Усе кіруючыя работнікі грамадскага харчавання, пачынаючы ад начальнікаў аб'яднанняў, канчаючы дырэктарамі сталовых і заг. вытворчасцю—павінны моцна ўсвоіць якой магутнай зброяй у справе перабудовы грамадскага харчавання з'яўляецца стаханаўскі рух, што ад таго, як яны гэтую справу ўзначаляць і арганізуюць, цалкам залежыць паспяховае выкананне задач, пастаўленых перад грамадскім харчаваннем партыяй і ўрадам.

Кіраўнікі, якія не ўзначаляць стаханаўскага руху, не змогуць заставацца на сваім пасту.

Загадваю.

1. Даклады стаханаўцаў на нарадзе ў Наркамунутгандлі 17 лістапада выдаць у відзе брашур і шырока распаўсюдзіць іх сярод усіх работнікаў прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

2. Начальнікам аб'яднанняў і дырэктарам трэстаў разам з дырэктарамі сталовых распрацаваць па кожнай фабрыцы-кухні і сталовай мерапрыемствы, якія забяспечваюць найбольш спрыяючыя ўмовы для разгортвання стаханаўскага руху.

3. Прэміраваць застрэльшчыкаў стаханаўскага руху ў грамадскім харчаванні.

## Па сістэме Галоўнага ўпраўлення сталовых

1. Тав. **Барысаву, А. В.**—повара-жаркоўшчыцу фабрыкі-кухні № 63 Ленінскага раёна Масквы, якая выконвае вытворчую норму звыш 200 проц. і дае добрай якасці прадукцыю і рацыяналізатарскія прапановы, якія дазволілі правесці значнае скарачэнне рабочай сілы на фабрыцы і атрымаць эканомію ў выдатках,—прэміраваць гарнітурам меблі.

2. Тав. **Рыбакову, М. І.**— повара-супніка сталовай № 15 Сталінскага трэста сталовых г. Масквы, якая перавыконвае вытворчую норму і выпускае штодзённа 2 200 супоў замест нормы ў 900 супоў і дае выдатную якасць выпускаемых супоў—прэміраваць патэфонам з пласцінкамі.

3. Тав. **Увікіну, Е. Г.**—судамойку сталовай № 33 Фрунзенскага раёна г. Масквы, якая выконвае вытворчую норму звыш 200 проц. шляхам ужывання стаханаўскіх метадаў работы, якая дабілася мыцця 25 талерак у мінуту пры змяншэнні боя пасуды—прэміраваць швейнай машынай.

4. Тав. **Тітова**—повара-супніка сталовай № 17 Пралетарскага трэста г. Масквы, які выконвае норму па выпуску супоў у 6 500 блюд замест 2 500 блюд пры добрай якасці супоў, які дабіўся водпуска звыш 1 000 супоў на дом—прэміраваць гарнітурам гатовага адзення.

5. Тав. **Раманава, К. С.**—повара-гарніршчыка фабрыкі-кухні Выбаргскага раёна г. Ленінграда, які выконвае 5 600 блюд замест устаноўленых па норме 2 600 і які дае высокай якасці гарніры—прэміраваць радыёпрыёмнікам ЭЧС-4.

6. Тав. **Кучара, С. Ф.**—загадчыка вытворчасці і заг. сталовай № 1 шахты „Кочегарка" Горлаўскага трэста, які скараціў у сталовай і на вытворчасці штат работнікаў на 16 чал., арганізаваў добрае абслугоўванне стаханаўцаў гэтай шахты, як у сваёй сталовай, так і на даму, які выпускае высокай якасці абеды—прэміраваць лёгкавой машынай.

7. Тав. **Махіціну, М. С.** повара—цэха поўфабрыкатаў фабрыкі-кухні „ХЭМЗ", якая перавыконвае вытворчую норму на 200 проц. дзякуючы правільнай расстаноўцы рабочай сілы ў сваёй брыгадзе, выпускае добрай якасці поўфабрыкаты—прэміраваць швейнай машынай.

8. Тав. **Евцюхіну, А. В.**—повара І-й катэгорыі сталовай № 12 Фрунзенскага трэста г. Масквы—за ўжыванне стаханаўскіх метадаў работы, скарачэнне штата кухні з 5 да 3-х чалавек, якая назначана загадчыкам вытворчасці гэтай сталовай і дае высокай якасці абеды—прэміраваць гарнітурам гатовага адзення.

9. Тав. **Магазінскага, К. Е.**—абвальшчыка мяса Маскоўскага харчовага камбіната г. Ленінграда, выконваючага вытворчую норму ў колькасці 1351 кгр. замест 655 кгр. шляхам правільнай арганізацыі рабочага месца і выпускаючага добрай якасці поўфабрыкаты—прэміраваць гарнітурам гатовага адзення.

10. Тав. **Юрэцкага**—повара-брыгадзіра сталовай № 73 шахты „Ірміно", які перавыконвае вытворчую норму ў два разы, дае добрай якасці абеды—прэміраваць гарнітурам меблі.

11. Тав. **Евстаф'еву**—карэншчыцу сталовай № 22 Окцябрскага раёна г. Ленінграда, якая выконвае чному па чысццы бульбы ў 300 кгр. замест 160 кгр. [illegible]іжэнні адыходаў і пры высокай якасці пра[illegible]—прэміраваць гарнітурам меблі.

12. Тав. **Леонаву, А. М.**—карэнішчыцу сталовай № 33 Ленінскага раёна г. Масквы, якая дабілася шляхам ужывання стаханаўскіх метадаў работы перавыканання вытворчай нормы на 233 проц. і якая скараціла ў два разы рабочую сілу сваёй брыгады—прэміраваць гарнітурам гатовага адзення.

13. Тав. **Масквіну, В. В.**—падавальшчыцу фабрыкі-кухні № 3 Кіраўскага раёна г. Ленінграда, якая перавыконвае вытворчыя нормы па падачы блюд на 193 проц. рацыяналізавала сваю работу і работу раздатачнай, дзякуючы палепшанага абслугоўвання спажыўцоў—прэміраваць швейнай нажной машынай.

14. Тав. **Ерафеева**—загадчыка вытворчасці сталовай № 17 Пролетарскага раёна г. Масквы, выхаваўшага на сваёй вытворчасці стаханаўцаў, узорам якіх з'яўляецца повар-супнік т. **Тітоў**, сістэматычна перавыконваючага план па звароту сталовай і дабіўшагася выпуска добрай якасці абедаў як у сваёй сталовай, так і на дом—прэміраваць гарнітурам гатовага адзення.

Нарком Унутранага Гандля СССР **ВЕЙЦЭР**

## Разгортванне дробна-рознічнага гандля

### ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР

13 снежня 1935 г. **№ 435** г. Менск

Наддаючы велізарнае значэнне разгортванню дробна-рознічнага гандля палатак, ларкоў, кіоскаў і разноснага гандля і ў мэтах знішчэння недахопаў у пастаноўцы дробна-рознічнага гандля (адсутнасць належнага гаспадарчага кіраўніцтва, справа снабжэння, адсутнасць сталага асартымента тавараў, існуючая сістэма зарплаты і інш.—**загадваю**.

1. Горунутгандлям разам з гандлюючымі арганізацыямі ўстанавіць дыслакацыю сеткі палатак, ларкоў і кіёскаў у мэтах найбольшага ахопа спажыўца і набліжэння тавараў, асабліва дастатковых, непасрэдна да пакупніка, для чаго правесці наступныя мерапрыемствы:

а) сканцэнтраваць палаткі, ларкі і кіёскі галоўным чынам, у мясцох найбольшага скаплення насельніцтва (базары, прывакзальныя плошчы, месцы народных гульняў і т. д. ), а таксама па тых раёнах і кварталах, дзе няма дастатковай колькасці стацыянарай рознічнай сеткі;

б) размяшчэнне палатак, ларкоў і кіёскаў правесці з такім разлікам, каб не было лішняга скаплення аднатыпнай па тэварнаму асартыменту сеткі ў адных раёнах, пры недахопе гэтай сеткі па другіх раёнах;

в) звярнуць асаблівую ўвагу на ўстанаўленне неабходнай колькасці і на размяшчэнне сезоннай сетцы (прахладжальных напіткаў, па продажу гародніны і фруктаў, абслугоўванне розных кампаній, дачных мясцовасцей і т. д.).

2. Гандлюючым арганізацыям пераглядзець і ўстанавіць цвёрды асартымент тавараў, якім павінна гандляваць кожная палатка, ларок, кіоск у адпаведнасці з попытам данага раёна і мясцовасці.

3. Упарадкаваць справу снабжэння дробнай розніцы, арганізуючы для гэтага неабходную колькасць спецыяльных дробна-аптовых баз, вылучаючы спецыяльных інспектароў для кантроля і праверкі становішча работы дробнай розніцы.

4. У мэтах павелічэння матэрыяльнай зацікаўленасці работнікаў палатак, ларкоў і кіоскаў,—Белгандлю, Белхарчгандлю і ЦРК—пераглядзець існуючую сістэму зарплаты ў наступным напрамку:

а) устанаўлення зарплаты ў выглядзе процанта ад звароты, прычым па дастатковым таварам у большым размеры—для стварэння матэрыяльнай зацікаўленасці работнікаў прылаўка ў рэалізацыі ў першую чаргу гэтых тавараў;

б) устанаўлення прагрэсіўнай аплаты за перавыкананне плана рэалізацыі дастатковых тавараў, у адпаведнасці з пастановай урада ад 14-VIII—35 г.

5. Праверыць арганізацыйна-тэхнічнае становішча палатачнай сеткі ў адносінах дастатковасці гандлёвай плошчы, асвятлення, ацяплення і санітарнага становішча.

6. Работу скончыць не пазней 1-I—36 года і ўвесь матэрыял даслаць Наркамунутгандлю БССР.

7. Аддзелу арганізацыі гандлёвай сетцы і рэгулявання цэн (тав. **Камянецкаму**) прасачыць за выкананнем гэтага загада і абагуленыя даныя прадставіць мне 10 студзеня 1936 года.

Нарком Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

## Аб зарплаце работнікаў спецыялізаванай сеткі

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

11 снежня 1935 г. **№ 907** г. Менск

У дадатак да пастановы № 883 ад 28-XI—35 г. Народны Камісарыят Унутранага Гандля **пастанаўляе**.

1. Пры выкананні работнікам спецыялізаванай сеткі нормы нагрузкі на 200 і больш процантаў, ён атрымлівае ў дадатак да асноўнага аклада прэмію, адпаведную перавыкананню індывідуальнай нормы выпрацоўкі, г. зн. калі аклад работніка 200 р. і норма выканана на 200 проц.—работнік атрымлівае—400 р.

2. Пры выкананні нормы ніжэй 200 проц. выплата работнікам спецыялізаванай сеткі зарплаты, праводзіцца ў адпаведнасці з тарыфнай згодай, заключанай на 1935—36 год.

3. Пры невыкананні індывідуальнай нормы нагрузкі ўтрыманне праводзіцца таксама ў адпаведнасці з тарыфнай згодай на 1935—36 год.

4. Заработная плата па спецыялізаванай сеткі загадчыкаў магазінаў, нам. заг. магазінаў і заг. секцый выплачваецца ў адпаведнасці з тарыфнай згодай.

У выпадку выканання плана магазінам ці секцыяй (аддзелам) у цэлым на 200 і больш процантаў, аплата праводзіцца ў такім-жа парадку, як і работнікам прылаўка, г. зн. выдаецца прэмія, роўная фактычнаму выкананню плана.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

# Парадак устанаўлення адпускных цэн на вырабы промкаапэрацыі і кааперацыі інвалідаў

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

16 снежня 1935 г. **№ 919** г. Менск

Устанавіць наступны парадак зацверджання Канвенцбюро адпускных цэн на вырабы промкааперацыі і кааперацыі інвалідаў:

1. Вытворчыя арганізацыі, прадстаўляючы калькуляцыі для зацверджання адпускных цэн,—абавязаны прадставіць падрабязныя тэхнічныя ўмовы тавараў, у якія павінна быць уключана:

а) з якога матэрыяла будзе выпрацоўвацца тавар і кошт яго ў адзінках вымера;

б) якая фарнітура і якасныя паказчыкі яе;

в) спосабы і якасць работы (механічная, або ручная работа);

г) размеры, фасон тавара;

д) знадворная і ўнутраная форма тавара;

е) апрацоўка, аддзелка і колер тавара;

ж) расшыфраваны чарцёж і фота-здымак тавара

з) якая маркіроўка тавара.

2. Наркамунутгандлю павінны быць прадстаўлены ўзоры і тэхнічныя ўмовы тавара ў 2-х экз. для зацверджання, зверкі і апячатання сургучнай пячаткай Наркамунутгандля, пасля чаго адзін экземпляр узораў і тэхнічных умоў у зацверджаным і апячатаным відзе адсылаецца арцелі, якая выпрацоўвае гэты тавар і адпаведнаму Райунутгандлю па месцу знаходжання данай арцелі.

Райунутгандлі і арцелі павінны захоўваць гэтыя экземпляры ў сябе, як кантрольныя ўзоры для зверкі пры здачы тавараў гандлюючым арганізацыям.

Знішчэнне гэтых узораў можа быць зроблена толькі са згоды Канвенцбюро Наркамунутгандля.

Што датычыцца грамоздкіх тавараў (мебля, тара і інш.), цяжка транспартыруемых—на гэтыя тавары павінны быць прадстаўлены фота-здымкі і расшыфраваныя чарцяжы ў 3-х экз., заверaныя подпісам і пячаткай адпаведнага старшыні арцелі, якая выпрацоўвае гэты тавар.

3. Гандлюючыя арганізацыі пры прыёмцы тавараў ад арцеляў павінны зверыць прымаемы тавар з зацверджанымі ўзорамі, якія знаходзяцца ў данай арцелі і Райунутгандлі, паміж якімі (узорамі) не павінна быць ніякіх разыходжанняў.

У выпадку выяўлення разыходжанняў паміж таварам, падлягаючым прыёмцы гандлюючай арганізацыяй і зацверджанымі ўзорамі, якія маюцца ў арцелях і Райунутгандлях, лічыць, што на даную партыю тавара цана павінна быць перагледжана, як на новы від тавара.

4. Абавязаць Белкааппрамсовет, Белкаапінсаюз і Белкалессаюз—да зацверджання адпаведнымі органамі ўзораў, тэхнічных умоў і цаны—тавары ў продаж не выпускаць.

5. Прапанаваць Гор. Райунутгандлям зараз-жа праверыць ў арцелях ці ўстаноўлены цэны на ўсе тавары, выпускаемые арцелямі і да 20 студзеня 1936 года паведаміць аб гэтым Наркамунутгандаль. У далейшым Гор. Райунутгандлі павінны мець сталы нагляд за промкааперацыяй і кааперацыяй інвалідаў на месцах па пытанню цэн і якасці выпускаемай арцелямі прадукцыі.

6. Прапанаваць **т. Цофіну** падрыхтаваць да бліжэйшага паседжання Канвенцбюро матэрыялы аб рэзультатах перагляда цэн на вырабы промкааперацыі, кааперацыі інвалідаў і Белкалессаюза.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

---

# АБ ПАРАДКУ ГАСПАДАРЧАГА КІРАЎНІЦТВА АРГАНІЗАЦЫЯМІ, ПЕРАДАДЗЕНЫМІ Ў СІСТЭМУ НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

## ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

15 снежня 1935 г. **№ 436** г. Менск

У адпаведнасці з тэлеграфным распараджэннем Наркома Ўнутранага Гандля Саюза ССР т. **Вейцэра** ад 14-XII—35 г. № 15174—аб парадку ажыццяўлення гаспадарчага кіраўніцтва гарадскімі арганізацыямі спажыўкааперацыі, перададзенымі ў сістэму Наркамунутгандля, да канчатковай рэарганізацыі—**загадваю**.

1. Віцебскі, Гомельскі, Бабруйскі, Магілеўскі, Аршанскі, Барысаўскі, Полацкі, Мазырскі ЦРК і Слуцкае Гарпо застаюцца, як самастойныя гаспадарча-разліковыя канторы, падпарадкаваныя Белгандлю.

2. На Белгандаль ускладаецца забеспячэння нармальнага тавaрнага снабжэння і фінансавання паказанай сетцы на 1-ы квартал 1936 года.

3. Пры заключэнні гаспадарчых дагавароў на 1936 г. Белгандаль абавязан прадугледзіць патрэбы паказанай сетцы б. спажыўкааперацыі.

4. Уся гаспадарчая дзейнасць пералічаных арганізацый быўшай спажыўкааперацыі падлягае самастойнаму ўчоту з самастойным адлюстраваннем на балансе Белгандля.

Паказаны парадак самастойнага ўчота распаўсюджваецца на тыя ЗРК, якія прыняты і ліквідаваны, як самастойныя адзінкі.

5. Прапанаваць дырэктару Белгандля т. **Кантару** неадкладна прадставіць ў Галоўгандаль свае меркаванні аб неабходных дадатковых штатах для кіраўніцтва работай былых арганізацый спажыўкааперацыі. Адначасова перадаць Белгандлю апарат сектара грамадскага харчавання і Сельгаскіраўніцтва, прыняты ад БКС.

6. Дырэктару Белгандля т. **Кантару** к 1-І—36 г. прадставіць у НКУГ БССР свае меркаванні аб неабходным скарачэнні штатаў цэрабкопаў і Слуцкага Гарпо.

Нарком Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

# За неправільныя разлікі з пакупнікамі—да адказнасці

## ПАСТАНОВА

### Упаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры Наркамунутгандлі СССР па БССР

15 снежня 1935 г. **№ 124** г. Менск

Праверкай групы магазінаў па Менску выяўлена, што касіры і работнікі прылаўка некаторых магазінаў (Горспажыўсаюза №№ 28, 82, Менхарчгандля №№ 8, 4, 29, 32, 38 і інш.) праводзяць неправільныя разлікі з пакупнікамі, шляхам недадачы рэшты ў 1—2 кап.

На падставе пастановы СНК СССР ад 19/Х—35 г. **пастанаўляю.**

1. Прапанаваць кіраўніку Горспажыўсаюза т. **Крэйніну:**

а) зняць з работы работніцу магазіна № 28 т. **Шніпер** за сістэматычную недадачу рэшты ў 1-2 к.;

б) загадчыку магазіна № 28 т. **Кофману** за адсутнасць нагляда за работай прадаўцоў—абвясціць вымову;

в) касіршы магазіна № 82 т. **Данішэўскай** за невыдачу рэшты ў 1 кап.—абвясціць суровую вымову з папярэджаннем.

Пытанне аб загадчыку магазінам № 82 т. **Лабецкім** заставіць адчыненым і вырашыць яго дадаткова.

2. Прапанаваць т. **Хейфецу** (Менхарчгандаль):

а) абвясціць суровую вымову з папярэджаннем касіршы магазіна № 38 т. **Рудэрман** за невыдачу рэшты ў 1 кап.;

б) загадчыку магазінам № 38 т. **Грынкевічу** абвясціць вымову за адсутнасць нагляда за работай касіра;

в) работніцы магазіна № 29 т. **Телюцінай** за невыдачу рэшты абвясціць суровую вымову;

г) работніцы прылаўка магазіна № 4 т. **Мор** за невыдачу рэшты пры наяўнасці дробных манет—абвясціць суровую вымову з папярэджаннем з занясеннем у працоўны спіс.

3. За водпуск тавараў нечыстай вагой і невыдачу рэшты пры пакупцы запалак—работніца прылаўка магазіна № 32 т. **Яцкевіч** заслугоўвае зняцця з работы, але ўлічваючы, што недавеса пры праверцы не было, абмяжавацца прапановай дырэктару Менхарчгандля т. **Хейфецу** абвясціць т. **Яцкевіч** суровую вымову з апошнім папярэджаннем з занясеннем у працоўны спіс.

Загадчыку магазіна № 32 т. **Мерхліну** абвясціць вымову за адсутнасць нагляда за работай сваіх работнікаў.

4. Абавязаць тав. **Плоткіна** (Горспажыўсаюз) і т. **Хейфеца** (Менхарчгандаль), а таксама кіраўнікоў іншых гандлюючых арганізацый прыняць меры к забеспячэнню ўсіх магазінаў разменнай манетай у дастатковай колькасці.

5. Давесці да ведама кіраўнікоў гандлюючых арганізацый вуснае паведамленне нам. кіраўніка Белканторы Дзяржбанка т. **Мікульскага** аб тым, што банк мае дастатковую колькасць разменных манет у 1—2 кап. для снабжэння ўсіх гандлюючых арганізацый ў неабмежаванай колькасці.

Абавязаць усіх кіраўнікоў гандлюючых арганізацый зрабіць папярэджанне ўсім загадчыкам магазінаў аб тым, што ў выпадку выяўлення фактаў недадачы рэшты па іх магазіну, яны будуць падвяргацца спагнанням нараўне з непасрэднымі віноўнікамі.

Гэтая пастанова можа быць абскарджана ў Дзяржаўную Гандлёвую інспекцыю пры Наркамунутгандлі СССР (Масква).

Нам. Упаўнаважанага Дзярж. Гандлёвай
Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР
**ГЕЛЬФЕР**

---

# Гандаль мандарынамі праводзіць ва ўсіх прадуктовых, гастранамічных і фруктовых магазінах

## ПАСТАНОВА

### па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР

14 снежня 1935 г. **№ 917** г. Менск

У выкананне тэлеграфнага распараджэння Наркамунутгандля Саюза ССР тав. **Вейцэра** ад 12-XII—35 г. і ў дадатак да пастановы НКУГ БССР ад 7-XII—35 г.—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР **пастанаўляе.**

1. Пад адказнасць кіраўнікоў гандлюючых арганізацый праводзіць гандаль мандарынамі ва ўсіх прадуктовых, гастранамічных і фруктовых магазінах.

2. Устанавіць, што ў кожным магазіне, дзе праводзіцца гандаль мандарынамі, павінны быць вывешаны аб'явы ў вітрынах магазінаў з паведамленнем аб продажы мандарын з указаннем існуючых паштучных цэн, устаноўленых Саюзнаркамунутгандлем.

3. Прапанаваць, пад адказнасць загадчыкаў Горунутгандля—Менска—т. **Саф'яна**, Віцебск—т. **Краскіна**, Гомеля—т. **Салаўя**, Магілева—т. **Моіна**, Бабруйска—т. **Багдановіча**, Барысава—т. **Пахомава**, Орша—т. **Баскіна**,—устанавіць штодзённы кантроль за ходам гандля мандарынамі, прыцягваючы кіраўнікоў гандлюючых арганізацый і загадчыкаў магазінаў, дапусціўшых дрэнную арганізацыю гандля мандарынамі, да стражэйшай адказнасці.

4. Прод. аддзелу прасачыць за выкананнем гэтай пастановы і не пазней 20-XII—35 г. аб выніках далажыць мне.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

# АБ РАЁННЫХ НОРМАХ ПРЫПЁКА НА РЖАНЫ І ПШАНІЧНЫ ПЕЧАНЫ ХЛЕБ

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля СССР

2 снежня 1935 г. **№ 1313** г. Масква

1. Зацвердзіць дадаваемыя пры гэтым абавязковыя для усіх хлебавыпякаючых арганізацый параённыя нормы прыпёка на ржаны і пшанічны хлеб.

2. Устанавіць, што выкананне норм прыпёка прадпрыемствамі хлебапячэння можа быць прызнана толькі пры ўмове абавязковага выканання апошнімі, побач з іншымі патрабаваннямі стандартаў на печаны хлеб, ніжэйнаступных паказчыкаў па якасці печанага хлеба:

**А. Ржаны хлеб з мукі 95 проц. памола.**

а) Знадворны выгляд.

1. Паверхня гладкая, без буйных трэшчын і надрываў.

2. Афарбоўка—роўнамерная, карычнева-бурая з некаторым блескам верхняй і бакавой корак у подавым хлебе і верхняй коркі ў фармавым. Не дапускаецца падгарэласць і лішняя бледнасць.

3. Пераход ад коркі к мякішу—не дапускаецца адслоенасць корак ад мякіша.

4. Форма—правільная (не расплыўчатая, не мятая без бакавых выплываў і інш. дэфектаў).

б) Стан мякіша.

1. Па ступені прапечанасці—добра прапечаны, не ліпкі і не вільготны на ошчуп.

2. Па прамесу—без камкоў ці слядоў непрамеса.

3. Па порыстасці—роўнамерна порысты, без пустот і без прызнакаў закала, г. зн. плотных, вадзяністых, не маючых пор участкаў мякіша.

4. Па эластычнасці—даволі эластычны і не крошкаваты. Пры лёгкім націсканні пальцамі мякіш павінен хутка прымаць першапачатковую форму.

5. Па свежасці—свежы (не чорствы і не крошкаваты).

в) Смак. Умерана кіслы, не перасолены, без прызнакаў горачы ці старонняга прысмака і без хруста на зубах ад мінеральнай прымесі.

г) Пах—без затхласці і старонніх пахаў.

**Б. Пшанічны хлеб з мукі 85 проц. памола.**

а) Знадворны выгляд.

1. Паверхня гладкая, без надрываў, без буйных трэшчын, а ў штучным хлебе—зусім без трэшчын.

2. Афарбоўка—роўнамерная, карычнева-бурая з блескам у штучным хлебе. Не дапускаецца падгарэласць і лішняя бледнасць.

б) Стан мякіша.

1. Па ступені прапечанасці—добра прапечаны, не ліпкі і не вільготны на ошчуп.

2. Па прамесу—без камочкаў і слядоў непрамеса.

3. Па порыстасці—роўнамерна порысты, без пустот, без прызнакаў закала, г. зн. плотных вадзяністых, не маючых пор участкаў мякіша.

4. Па эластычнасці—даволі эластычны і не крошкаваты. Пры лёгкім націсканні пальцамі мякіш павінен хутка прымаць першапачатковую форму.

5. Па свежасці—свежы (не чорствы і не крошкаваты).

в) Смак—не кіслы, не прэсны, не перасолены, без прызнакаў горэчы, старонняга прысмака і без хруста на зубах ад мінеральнай прымесі.

г) Пах—без затхласці і старонніх пахаў.

3. Пад асабістую адказнасць кіраўнікоў хлебавыпякаючых і хлебагандлюючых арганізацый забараніць—першым адпускаць, а другім прымаць для продажу насельніцтву печаны хлеб, які не адказвае патрабаванням добраякаснасці яго па прызнакам, паказаным вышэй (пункт 2) і іншых адхіленнях ад стандарта на печаны хлеб.

4. Абавязаць хлебагандлюючыя арганізацыі ў месячны тэрмін правесці спецыяльнае інструктаванне ўсіх загмагаў і прадаўцоў, занятых гандлем хлебам па пытанням—стандартныя паказчыкі па якасці печанага хлеба, арганалептычныя метады вызначэння гэтай якасці як мінімум ведаў, неабходных пры прыёмцы печанага хлеба ў гандлёвую сетку.

5. Абавязаць хлебагандлюючыя арганізацыі пры заключэнні на 1936 г. дагавароў з хлебавыпякаючымі прадпрыемствамі на пастаўку печанага хлеба прадугледзіць спецыяльныя санкцыі за пастаўку недобраякаснага хлеба.

6. Абавязаць Наркамунутгандлі, Крайаблунутгандлі арганізаваць сістэматычны штодзённы нагляд за выкананнем устаноўленых п. 1 гэтай пастановы норм прыпёку хлебавыпякаючымі арганізацыямі.

Нам. Наркома Унутранага Гандля
Саюза ССР **БАЛОЦІН**

# Своечасова рамантаваць вага-вымяральныя прыборы і гіры

## Загад па Наркамунутгандлю БССР

28 лістапада 1935 г. **№ 424** г. Менск

Улічваючы практыку рамонта вага-вымяральных прыбораў гандлюючымі арганізацыямі ў 1935 годзе, калі апошнія праводзілі рамонт, галоўным чынам, у другім квартале, у час разгара рамонта вагаў для загатоўчых арганізацый, у сувязі з чым вага-рамонтныя арганізацыі не забяспечылі цалкам рамонта вагавай гаспадаркі гандлюючых арганізацый загадваю.

1. Абавязаць усе гандлюючыя арганізацыі, пад адказнасць іх кіраўнікоў неадкладна заключыць дагаворы з вага-рамонтнай базай Белметалатрэста на рамонт вага-вымяральных прыбораў і гіраў з тым, каб на працягу першага квартала 1936 года поўнасцю правесці і закончыць рамонт і атрыманне адрамантаваных вагаў і гіраў.

2. Па кожнай гандлюючай арганізацыі вызначыць спецыяльных асоб, на якіх ускласці адказнасць за своечасовасць рамонта, а таксама кантроль і праверку яго якасці.

3. Гор. Райунутгандлям прасачыць за выкананнем гэтага загада.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

# НОВЫЯ РОЗНІЧНЫЯ ЦЭНЫ НА КАНДЗІЦЕРСКІЯ ВЫРАБЫ

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

14 снежня 1935 года **№ 916** г. Менск

На падставе пастановы Саюзнаркамунутгандля № 1350 ад 9/XII—35 г., Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР **пастанаўляе**.

1. Зацвердзіць прэйскурант новых розпічных цэн на кандзіцерскія вырабы фабрык саюзнай і мясцовай прамысловасці.

2. Зацвердзіць прэйскурант адпускных і розпічных цэн на варэнне, павідла і джэм, выпрацоўкі прадпрыемстваў НК Мясцовай прамысловасці, Белплодагародніны, Белкааплодагародніны, Белхарчпрамсаюза і Белкаапінсаюза.

3. Пераацэнку кандзіцерскіх вырабаў правесці 15 снежня 1935 года, зняцце астаткаў—па актах, завяраемых па дзяржгандлю—загадчыкам магазінаў і прадстаўніком дырэкцыі Торга, Гастранома, Бакалеі, па спажывецкай кааперацыі—заг. магазінамі членам рэвіз. камісіі сельпо, Гарпо; па ОРС'ам—загадчыкам магазіна і прадстаўніком рабочага кантроля прадпрыемства.

4. Розніцу ад пераацэнкі кандзіцерскіх вырабаў аднесці за рахунак дзяржбюджэта.

5. Устаноўлены размер дадатковых гужавых накідак пастановай СНК БССР № 44 ад 13-I—35 г. на кандзіцерскія тавары, рэалізуемыя на адлегласці звыш 5 кілометраў ад чыгуначных станцый і водных прыстаней—заставіць у сіле.

6. Увесь астатні асартымент кандзіцерскіх вырабаў, які не ўваходзіць у прэйскуранты новых паніжаных цэн—пераацэнцы не падлягае і рэалізуецца па існуючых адпускных цэнах з устаноўленай гандлёвай накідкай для горада—10,75 проц. і для сяла—15 проц.

Растлумачыць гандлюючым арганізацыям, што прэйскурант новых паніжаных розпічных цэн на кандзіцерскія вырабы складзены з захаваннем існаваўшага абсалютнага размера гандлёвай накідкі па гэтых таварах.

Народны Камісар Унутранага Гандля Беларускай ССР **Н. ГУРЭВІЧ**

---

Дополнение к постановлению НКВТ БССР № 916 от 14/XII—1935 г.

# ПРЕЙСКУРАНТ

## единых отпускных и розничных цен на кондитерские изделия фабрик госпромышленности, вводимых с 16 декабря 1935 г.

(В рублях и копейках за килограмм).

| Наименование товаров | Расфасовка | Отпускн. цена франко-склад фабрики | | Розничная цена: По городу | | Розничная цена: По селу (на расстоянии 5 клм. от ж. д. станций и водн. пристаней) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **І-ая Ленинградская кондитерская ф-ка им. Самойловой** | | | | | | | |
| **Мягкие конфенты** | | | | | | | |
| Восток | Весов | 5 | 05 | 5 | 70 | 5 | 95 |
| Крем-помада | " | 5 | 05 | 5 | 70 | 5 | 95 |
| Цукатная | " | 5 | 05 | 5 | 70 | 5 | 95 |
| Старт | " | 5 | 65 | 6 | 35 | 6 | 65 |
| Полярная | " | 5 | 65 | 6 | 35 | 6 | 65 |
| Спорт | " | 5 | 65 | 6 | 35 | 6 | 65 |
| Экстра | " | 6 | 05 | 6 | 80 | 7 | 10 |
| Крем-ирис | " | 6 | 05 | 6 | 80 | 7 | 10 |
| Красный флот | " | 6 | 05 | 6 | 80 | 7 | 10 |
| Египедские | " | 6 | 80 | 7 | 65 | 8 | — |
| Казбек | " | 7 | 65 | 8 | 50 | 8 | 85 |
| Яхта | " | 7 | 65 | 8 | 60 | 9 | — |
| Персидский горошек | " | 10 | 60 | 12 | — | 12 | 50 |
| Пельмени | " | 14 | 40 | 16 | 20 | 17 | — |
| Тянучка | " | 15 | 30 | 17 | 30 | 18 | — |
| **Драже** | | | | | | | |
| Смесь цветн. ликерн. | Весов | 4 | 90 | 5 | 55 | 5 | 80 |
| " " " в кор. | 250 гр. | 6 | — | 6 | 80 | 7 | 10 |
| " " " | 100 " | 6 | — | 6 | 80 | 7 | 10 |
| Мятный горошек | Весов | 4 | 65 | 5 | 25 | 5 | 50 |
| **Шоколад в плитках** | | | | | | | |
| Золотой якорь | 100 гр. | 72 | — | 80 | 60 | 84 | — |
| Молочный | 100 " | 65 | 50 | 73 | 40 | 76 | 50 |
| Шоколад № 4 | 100 " | 65 | 50 | 73 | 40 | 76 | 50 |
| " № 3 | 100 " | 56 | — | 62 | 70 | 65 | 30 |
| " № 2 | 100 " | 48 | — | 53 | 70 | 56 | — |
| " № 1 | 100 " | 34 | — | 38 | 10 | 39 | 70 |
| Детские с картинками | 25 " | 47 | — | 53 | 40 | 55 | 90 |
| **Минская государственная кондитерская фабрика „Коммунарка"** | | | | | | | |
| **Монпасье** | | | | | | | |
| Подушечка пролин. обсып. | Весов | 3 | 20 | 3 | 65 | 3 | 80 |
| " помадн. | " | 3 | 20 | 3 | 65 | 3 | 80 |
| Фруктово-ягодная | " | 3 | 20 | 3 | 65 | 3 | 80 |
| Подушечка дражирован. | " | 3 | 60 | 4 | 05 | 4 | 20 |
| Леденцы обсып. б/кислотн. | " | 3 | 30 | 3 | 75 | 3 | 90 |
| Фруктово-ягодн. дражир. | " | 3 | 60 | 4 | 05 | 4 | 20 |
| Подушечка пролин. драж. | " | 3 | 85 | 4 | 30 | 4 | 45 |
| Помадная | " | 3 | 85 | 4 | 30 | 4 | 45 |
| Леденцов. с кислотой | " | 3 | 40 | 3 | 85 | 4 | — |
| " " в кор. | 150 гр. | 4 | 60 | 5 | 10 | 5 | 30 |
| Полярная смесь | Весов | 4 | — | 4 | 60 | 4 | 85 |
| " " в короб. | 150 гр. | 4 | 60 | 5 | 40 | 5 | 75 |

